# THE ULTIMATES

## 3. Дзеці будучыні



Stan Lee presents:

# THE ULTIMATES

Mark Millar story
pencils Bryan Hitch Andrew Currie inks
Paul Mounts colors
Chris Eliopoulos letters
C.B. Cebulski assistant editor
Brian Smith associate editor
Ralph Macchio editor
editor in chief Joe Quesada
Bill Jemas president & inspiration




ХЭНК ПІМ, НУ ТЫ І ВЫХВАЛЕНЕЦ.
SONY


У ГЭТЫМ КАСЦЮМЕ ТЫ СТАНОВІШСЯ ПАДОБНЫМ НА ГІГАНТСКАГА СЕРЫЙНАГА ЗАБОЙЦУ.
СУР'ЁЗНА? А Я ХТО: ВЫТАНЧАНЫ РАМАНТЫЧНЫ БРЫТАНЕЦ ЦІ ВЯЛІКІ ВАЛАСАТЫ МУЖЫК З АРКАНЗАСА, ЯКІ ХАВАЕ ЧАСТКІ ЦЕЛАЎ СВАІХ АХВЯР У ХАЛАДЗІЛЬНІКУ?


БАЮСЯ, ДРУГІ ВАРЫЯНТ. АЛЕ ДЖОРДЖЫО АРМАНІ ЯШЧЭ НЕ ВЫПУСЦІЎ КАЛЕКЦЫЮ ДЛЯ 18-МЕТРОВЫХ МУЖЧЫН, ТАМУ ПРЫЙДЗЕЦЦА ПАКУЛЬ НАСІЦЬ СКУРАНЫ КАМБІНЕЗОН.
ДАРЭЧЫ, ЯК ТВАЕ ЗРЭНКІ ВЫТРЫМЛІВАЮЦЬ ПРАМОЕ СОНЕЧНАЕ СВЯТЛО?


АКУЛЯРЫ ДАПАМАГАЮЦЬ. НАОГУЛ, ПРАБЛЕМА ПАКУЛЬ УСЯГО АДНА: ЯК ТОЛЬКІ ВЫРАСТАЮ, СТАНАЎЛЮСЯ МОЦНА ГАЛОДНЫМ. ГАТОВЫ З'ЕСЦІ ЦЭЛУЮ ФЕРМУ.
REC
ВОСЬ ТАБЕ І ПЕРШАЕ ПРАВІЛА, ДАРАГАЯ: НІКОЛІ НЕ ЯСІ ПЕРАД ТЫМ, ЯК ЗМЯНЬШАЕШСЯ. НАСТУПСТВЫ МОГУЦЬ... БЫЦЬ НЕПРЫЕМНЫМІ.


БОЖА, НЯЎЖО МЫ САПРАЎДЫ СТАНЕМ СУПЕРГЕРОЯМІ? ТЫ І Я, ДВА САМЫХ ЗАЦЯТЫХ БАТАНІКА НА ПЛАНЕЦЕ ЗЯМЛЯ, БУДЗЕМ ЗМАГАЦЦА ЗА ПРАЎДУ І СПРАВЯДЛІВАСЦЬ?
І ПРЫ ГЭТЫМ МЫ ТАК ДАЎНО НЕ ГУЛЯЛІ ЗА СПАРТЫЎНУЮ КАМАНДУ СВАЁЙ ВЫШЭЙШАЙ ШКОЛЫ.


НУ, КАЛІ ШЧЫРА, Я РАЗГЛЯДАЮ ЎДЗЕЛ У ГЭТАЙ КАМАНДЗЕ НІКА Ф'ЮРЫ АЛЬЦІМЭЙТС, ЯК НОВУЮ ПЕРСПЕКТЫВУ ДЛЯ НАШЫХ З ТАБОЙ АДНОСІН.


БОЖА, ЯНЫ ШТО, НЕ МОГУЦЬ ПАКІНУЦЬ НАС НА ХВІЛІНКУ АДНЫХ?
INCOMING TEXT MESSAGE FROM: TONY STARK
SIEMENS


ШТО-НЕБУДЗЬ ЦІКАВАЕ, МІЛАЯ?


ДЖЭН?


У 1945 ГОДЗЕ ПЕРШЫ Ў СВЕЦЕ ГЕНЕТЫЧНА УДАСКАНАЛЕНЫ САЛДАТ ЗНІК У ЯДЗЕРНЫМ ВЫБУХЕ НА АДЛЕГЛАСЦІ ПЯЦІСОТ МІЛЬ АД УЗБЯРЭЖЖА НЬЮФАЎНДЛЕНДА.


ДВАЦЦАЦЬ ЧАТЫРЫ ГАДЗІНЫ НАЗАД ГРУПА ВАЙСКОВЫХ БІЁЛАГАЎ ЗНАХОДЗІЦЬ ЯГО ЦЕЛА Ў КАВАЛКУ ІЛЬДА І ГЭТЫ КАПІТАН АМЕРЫКА НЕ ПАСТАРЭЎ НІ НА АДЗІН ЧОРТАЎ ДЗЕНЬ!


ГЭТА ЗНАХОДКА МАЕ ФЕНАМЕНАЛЬНАЕ ЗНАЧЭННЕ, ТОНІ.
КАМУСЬЦІ ПАТРЭБНЫ БЫЎ ЗНАК З НЯБЁСАЎ? ВОСЬ ЁН. МЫ ЗНАЙШЛІ САМАГО СЦІВА РОДЖЭРСА. ХТО ЦЯПЕР ПАСПРАЧАЕЦЦА НА КОНТ ТАГО, ШТО МЫ ЗАЙМАЕМСЯ ПРАВІЛЬНАЙ СПРАВАЙ?


НАГАДВАЕ КНІГІ ДЖОЗЕФА КЭМПБЕЛА. НАЙВЯЛІКІ ГЕРОЙ КРАІНЫ ВЯРТАЕЦЦА, КАЛІ ЁН ПАТРЭБНЫ БОЛЬШ ЗА ЎСЁ.
Я АТРЫМАЮ ПАЛОВУ АД УСІХ ПРЫБЫТКАЎ З ПРОДАЖЫ СУВЕНІРАЎ.


БАНЭР НЕРВУЕЦЦА, БЫЦЦАМ ЗБІРАЕЦЦА АЖЫВІЦЬ САМАГО САНТА-КЛАУСА.




КАПІТАН АМЕРЫКА?


МЯНЕ ЗАВУЦЬ ДОКТАР РОБЕРТ БРУС БАНЭР, І Я НОВЫ ПАМОШНІК КІРАЎНІКА ПРАГРАМЫ «СУПЕРСАЛДАТ», УДЗЕЛЬНІКАМ ЯКОЙ ВЫ СТАЛІ Ў 1942.
КАЛЯ МЯНЕ ПРАМЫСЛОВЕЦ ТОНІ СТАРК І КІРАЎНІК СІЛАЎ СУСВЕТНАЙ БЯСПЕКІ «АБАРОНА» ГЕНЕРАЛ НІКАЛАС Ф'ЮРЫ.


УСЁ ГЭТА ДЗІЎНА ВЫГЛЯДАЕ, АЛЕ, ПАВЕРЦЕ, ВЫ СЯРОД СЯБРОЎ, СЭР.


ШТО ТУТ АДБЫВАЕЦЦА, МІСТАР? ШТО ЗДАРЫЛАСЯ З ЯДЗЕРНЫМ КОМПЛЕКСАМ, ЯКІ МЫ АТАКАВАЛІ?


ВЫ НЕЙТРАЛІЗАВАЛІ ЯГО, КАПІТАН. ЗАДАННЕ ВЫКАНАНА. САЮЗНІКІ ВЫЙГРАЛІ ВАЙНУ. АЛЕ ЯКІМ КОШТАМ...
НАВІНА НЕ З ПРЫЕМНЫХ, ТАМУ ТРЫМАЙЦЕСЯ.


КОЛЬКІ Ж Я АДСУТНІЧАЎ, ДОК?


ПРА ГЭТА МЫ І ХАЦЕЛІ ПАГАВАРЫЦЬ, СЦІЎ. МЫ ЯШЧЭ НЕ ЎПЭЎНЕНЫ, У ЧЫМ ПРЫЧЫНА: У ХУТКАЙ ЗАМАРОЗКЕ ЦІ СЫРОВАТКЕ «СУПЕРСАЛДАТ», АЛЕ...


ХТО-НЕБУДЗЬ МОЖА АДКАЗАЦЬ НАРМАЛЬНА?




ПЯЦЬДЗЕСЯТ СЕМ ГАДОЎ, КАПІТАН.




ПРАБАЧ, ФРЫЦ, АКЦЭНТ БЕЗДАКОРНЫ, АЛЕ ТЫ ДРЭННА ПАДРЫХТАВАЎСЯ...


САМАЕ ВЫСОКАЕ ЗВАННЕ СЯРОД ЧОРНАСКУРЫХ БЫЛО Ў КАПІТАНА З БРУКЛІНА, З ЯКІМ Я ВЫРАС.


УСЫПІЦЬ ЯГО!




БОЖА, БАНЭР! ТЫ Ж СКАЗАЎ, ШТО ЯМУ ЦЯЖКА НАВАТ РАЗМАЎЛЯЦЬ БУДЗЕ!
ВІДАЦЬ, Я ТРОХІ ПАМЫЛІЎСЯ Ў РАЗЛІКАХ, МІСТАР СТАРК.




УВАГА ЎСІМ АГЕНТАМ «АБАРОНЫ»! КАПІТАН АМЕРЫКА ЎЦЁК! ПАЎТАРАЮ, КАПІТАН АМЕРЫКА ЎЦЁК! АКТЫВАВАНЫ ПЛАН 703. ПАЧЫНАЙЦЕ СТРЫМЛІВАЮЧЫЯ МАНЕЎРЫ.
ШТО?
LEVEL 3


ДА БЫЦЬ ТАГО НЕ МОЖА...
НУ І ХТО З ІМ РАЗБЯРЭЦЦА, МІСТАР ПІМ? ТЫ ЦІ Я?


СІТУАЦЫЯ ПАД КАНТРОЛЕМ, МІСІС ПІМ.


БОЖА МОЙ!
ПАД КАНТРОЛЕМ? ЗУСІМ ЗВАР'ЯЦЕЎ? ТЫ ЗАБІЎ КАПІТАНА АМЕРЫКА, ІДЫЁТ!


СУПАКОЙСЯ, СТАРК. ЁН ЯШЧЭ ДРЫГАЕЦЦА.
З КОЖНЫМ ТВАІМ ПЕРАЎТВАРЭННЕМ, ПІМ, МНЕ ХОЧАЦЦА ВЫКАЛАЦЬ ТАБЕ ВОЧЫ.


З ІНШАГА БОКУ ГЭТЫ ІНЦЫДЭНТ ДАКАЗАЎ, ШТО Ў МАЁЙ КРЫВІ НЕ ЗАСТАЛОСЯ ЧАСЦІЦ ХАЛКА, ДОКТАР ПІМ.
ВЫ БЫЦЦАМ ЗАСМУЦІЛІСЯ, ДОКТАР БАНЭР.


CEDAR ST
ПРАБАЧЦЕ, ШТО ЗЛАМАЎ ВАМ НОС, ГЕНЕРАЛ Ф'ЮРЫ.


НІЧОГА, КЭП. ГЭТЫ НОС, ЯК РОБЕРТ ДАУНІ МАЛОДШЫ... ЁН БАЧЫЎ І НЕ ТАКОЕ.
ХВАЛЮЙСЯ ЗА СЯБЕ, САЛДАТ. ДУМАЕШ, ЗАРАЗ ЗРУЧНЫ ЧАС ПРАЙСЦІ ПРАЗ УСЁ ГЭТА?


СЭР, Я ТОЛЬКІ ШТО ДАВЕДАЎСЯ, ШТО МАЯ НЯВЕСТА ВЫЙШЛА ЗАМУЖ ЗА МАЙГО ЛЕПШАГА СЯБРА, У ІХ ЧАЦВЁРА ДЗЯЦЕЙ І СЕМ УНУКАЎ. ДАВАЙЦЕ АДКРЫТА: ТУТ НЯ МОЖА БЫЦЬ ЗРУЧНАГА ЧАСУ.
ЗГОДНЫ.


ЯК БАКІ АДРЭАГАВАЎ НА НАВІНУ?
ЯК СТАРЫК, ЯКІ ДАВЕДАЎСЯ, ШТО ЯГО ЛЕПШЫ СЯБАР ВЯРНУЎСЯ З МЁРТВЫХ.
У ЯГО ПУХЛІНА, ТАК ШТО ЛЯГЧЭЙ З ІМ, ДОБРА?


НІК Ф'ЮРЫ?


ТАК ЁСЦЬ, КАПРАЛ БАРНС. НУ ШТО, ПРЫМІЦЕ НАС І ПАЧАСТУЕЦЕ КАВАЙ, ЦІ НАМ РАСЧАХЛІЦЬ ЗБРОЮ?


ПРАБАЧЦЕ, РАБЯТЫ. ДАВАЙЦЕ ПЛАШЧЫ І ПРАХОДЗЬЦЕ Ў ГАСЦЁЎНЮ. ХЛОПЧЫКІ, СКАЖЫЦЕ БАБУЛІ, ШТО Ў НАС ГОСЦІ.
ШЧЫРЫ ДЗЯКУЙ, САЛДАТ. ЦІКАВА... ВЫ САМІ ЗРАБІЛІ ЎСЕ ГЭТЫЯ ФАТАЗДЫМКІ?


ТАК, МАЕ СТАРЫЯ ПЕРАДАВІЦЫ З «ТАЙМС» І «ПОСТ». АЛЕ ЎЖО ВОСЕМДЗЕСЯТ ЛЕТ ЯК МЯНЕ АДПРАВІЛІ НА ПЕНСІЮ, ГЕНЕРАЛ.
ЦЯПЕР, МЫ З ГЕЙЛ ПРЫГЛЯДВАЕМ ЗА ДЗЕЦЬМІ НАШАЙ СТАРЭЙШАЙ ДАЧКІ, ШЭРАН. СЯДЗІМ З ІМІ ТРЫ ДНІ Ў ТЫДЗЕНЬ, ПАКУЛЬ ЯНА ПРАЦУЕ...




БАКІ?
ГЭТА Ж Я, СЯБРА.


ХЛОПЕЦ, Я Ж ЦЯБЕ ПАПЯРЭДЖВАЎ НАКОНТ ЦЫГАРЭТ...


СЦІЎ... МНЕ ТАК СОРАМНА, ШТО Я ГАТОВЫ СКРОЗЬ ЗЕМЛЮ ПРАВАЛІЦЦА. БОГАМ КЛЯНУСЯ, МЫ ЛІЧЫЛІ, ШТО ТЫ ЗАГІНУЎ... КЛЯНУСЯ БОГАМ...


Я ЯК РЫП ВАН ВІНКЛЬ. НА ІМГНЕННЕ ЗАПЛЮШЧЫЎ ВОЧЫ... І ЎВЕСЬ СВЕТ ЗАБЫЎ АБА МНЕ.


БОЖА МІЛАСЛІВЫ, ДЫ ТЫ БЫЦЦАМ СЫШОЎ СА СТАРОГА ФАТАЗДЫМКА, СЯБРА...


ДЗЕ ГЕЙЛ?


ЯШЧЭ НАВЕРСЕ, РЫХТУЕЦЦА. ХЛОПЧЫКІ, Я Ж ПАПРАСІЎ ВАС ПАКЛІКАЦЬ БАБУЛЮ.
ЯНА НЕ ХОЧА СПУСКАЦЦА, ДЗЯДУЛЯ. ПРОСТА СЯДЗІЦЬ, ГЛЯДЗІЦЬ У ВАКНО І ПЛАЧА.


МНЕ **ЎСЁ РОЎНА**. СКАЖЫ, ШТО Я ПЕРАДУМАЛА.
ГЕЙЛ, ДАРАГАЯ, **ШТО ЗА ГЛУПСТВЫ?** ЁН СТАІЦЬ І ЧАКАЕ **ТУТ, УНІЗЕ**.


НАВОШТА МНЕ СЛУХАЦЬ ЯГО, КАЛІ ЁН НІКОЛІ **НЕ СЛУХАЎ** МЯНЕ? Я КАЗАЛА, ШТО НАША ЖЫЦЦЁ РУХНЕ, КАЛІ ЁН ЗГАДЗІЦЦА НА ГЭТЫ ЭКСПЕРЫМЕНТ.
АЛЕ ЁН ХАЦЕЎ ВЫГЛЯДАЦЬ **ЯК СУПЕРЗОРКА**. ЗВЫЧАЙНАГА ЖЫЦЦЯ ЯМУ БЫЛО **МАЛА**.


ГЕЙЛ, ПРАШУ. ХАЦЯ Б НА **ПЯЦЬ ХВІЛІН**. Я ХАЧУ ЦЯБЕ ЎБАЧЫЦЬ...


НЕ, СЦІЎ... **НЕ ХОЧАШ**.


ТЫ НЕ ХОЧАШ ЎБАЧЫЦЬ МЯНЕ **ТАКОЙ, ПАВЕР**...




БАЦЬКА: **ДЖОЗЕФ ХАРВІ РОДЖЭРС**, ПАМЁР 18 ЛЮТАГА 1944-ГА. ПРЫЧЫНА: ВОСТРЫ ІНФАРКТ МІЯКАРДА Ў СУВЯЗІ З ТРАМБОЗАМ ВЕНЕЧНЫХ САСУДАЎ І АТЭРОМАЙ.
МАЦІ: **САРА АЛІСІЯ РОДЖЭРС**, ПАМЕРЛА 12 САКАВІКА 1967-ГА. ПРЫЧЫНА: ПАШЫРАНАЯ КАРДЫЯМІАПАТЫЯ Ў СУВЯЗІ З ХВАРОБАЙ ЛЁККІХ.


БРАТ: **ДУГЛАС ЛІНКАЛЬН РОДЖЭРС**, ПАМЁР 9 ЛЮТАГА 1972-ГА. ПРЫЧЫНА: ГЕМАТОМА З-ЗА ПЯЧОНАЧНАЙ НЕДАСТАТКОВАСЦІ.
МНЕ ПРАЦЯГВАЦЬ, КАПІТАН?
ГЭТА МАЯ СЯМ'Я, СЭР. Я ПАВІНЕН ВЕДАЦЬ, ШТО З ІМІ АДБЫЛОСЯ.


У ДУГЛАСА БЫЛІ ДЗЕЦІ?
МЯРКУЮЧЫ ПА ДАКУМЕНТАХ, У ДУГЛАСА ЛІНКОЛЬНА РОДЖЭРСА ЗАСТАЛІСЯ **ДВОЕ** ДЗЯЦЕЙ АД ПЕРШАГА ШЛЮБУ.
СЫН БЫЎ ЗАСТРЭЛЯНЫ АФІЦЭРАМ **АДДЗЕЛА ПА БАРАЦЬБЕ З НАРКОТЫКАМІ**, А ДАЧКА ВЫЙШЛА ЗАМУЖ І ЖЫВЕ Ў АЙДАХА. ПРАЦУЕ Ў **ТЭЛЕФОННАЙ КАМПАНІІ**.


А ЯКІ СЭНС? ЯНА МЯНЕ НЕ ВЕДАЕ. НІХТО МЯНЕ ЎЖО НЕ ВЕДАЕ. НАВАТ ТЫЯ, КАГО Я ПАМЯТАЮ ДЗЕЦЬМІ, СТАЛІ СТАРЫКАМІ.
АРГАНІЗАВАЦЬ ВАМ СУСТРЭЧУ? МЫ МОЖАМ БЫЦЬ У АЙДАХА ДА ШАСЦІ ВЕЧАРА.

ЛЕПШ БЫ ВЫ ЗАСТАВІЛІ МЯНЕ ЗАМАРОЖАНЫМ, ГЕНЕРАЛ Ф'ЮРЫ. Я ЗГУБІЎ УСЁ, ШТО БЫЛО МНЕ ДОРАГА.

НЕ ЎСЁ, КАПІТАН.



«МЫ ШТО, САПРАЎДЫ ПЛАЦІМ ГАСЦЯМ ПА ПЯЦЬСОТ БАКСАЎ, КАБ ЯНЫ ПАМАХАЛІ Ў КАМЕРУ ФЛАГАМ?»

МЫ ЖА НА ТЭЛЕБАЧАННІ, НІК. ЯШЧЭ ТАННА АДЧАПІЛІСЯ.
ГЭТУ ЦЫРЫМОНІЮ ТРАНСЛЮЮЦЬ НА 42 МОВАХ СВЕТУ. ТРЭБА ПАКАЗАЦЬ ШТОСЬЦІ ПРЫГОЖАЕ, А НЕ НАТОЎП ПРЫШЧАВАТЫХ ТАЎСТУНОЎ, ЯКІЯ ВАР'ЯЦЕЮЦЬ ПА ЛЮБОЙ СУПЕРКАМАНДЗЕ.
А МНЕ ПОТЫМ ПРЫЙДЗЕЦЦА ТЛУМАЧЫЦЬ ПЕРАД КАМІСІЯЙ, НАВОШТА МЫ ВЫДАТКАВАЛІ ПАЎМІЛЬЁНА ДАЛЯРАЎ НА МУЖЧЫН-МАДЭЛЯЎ, БЭЦІ.

НІК, МЯНЕ ПРЫЗНАЧЫЛІ ЗАЙМАЦЦА ПІЯРАМ НЕ З-ЗА ТАТУЛІ, ЯКІ БЫЎ ТВАІМ БОСАМ, А ТАМУ, ШТО Я ПРАФЕСІЯНАЛ. ТАМУ ДУМАЙ, ШТО КАЖАШ.
ДОБРА.
АЛЕ ТЫ КАЛІ-НЕБУДЗЬ ЗАДУМВАЛАСЯ, ЯК БЫ ДА ГЭТАГА ПАСТАВІЎСЯ СТАРЫНА РОСС?

ПЯЦЬ ТЫСЯЧ ТЭХНІКАЎ, ДЗЕСЯЦЬ ТЫСЯЧ САЛДАТАЎ БЕЗ КАМУФЛЯЖА, ШТАБ СПРАЕКТАВАНЫ НОРМАНАМ ФОСТАРАМ. І ВОСЬ УРАЧЫСТАЕ АДКРЫЦЦЁ.
БОЛЬШ ПАДОБНА НА ГАЛІВУДСКУЮ ПРЭМ'ЕРУ, ЧЫМ НА ІНІЦЫЯТЫВУ «АБАРОНЫ».

ВОСЬ ТОЛЬКІ Ў АДРОЗНЕННІ АД ГАЛІВУДА, Я ЗРАБЛЮ АЛЬЦІМЭЙТС ПА-САПРАЎДНАМУ ЗНАКАМІТЫМІ.


Трыкселiён, Верхняя Бухта Манхэттана


А ТВАЯ БЫЛАЯ ДЗЯЎЧЫНА СІМПАТЫЧНАЯ, БАНЭР! ДА ТАГО Ж ЯШЧЭ І ДАЧКА ГЕНЕРАЛА РОССА. НІКОЛІ НЕ ЎЯЎЛЯЎ ЯЕ Ў ТАТАВАЙ ФОРМЕ З ВУСАМІ?
НЕ, І ЯНА НЕ «БЫЛАЯ», СТАРК. МЫ ПРОСТА ЧАСОВА РАЗЫШЛІСЯ. І НЯЎЖО ТЫ НЕ ЗБІРАЎСЯ ПРЫЕХАЦЬ У КАМПАНІІ ДЖЭНІФЕР ЦІЛЛІ?


ЗА ГЭТЫМІ ГАЛІВУДСКІМІ ЗОРКАМІ ТРЫБА САЧЫЦЬ У ДВА ВОКА, БРУС.
СЁННЯ ЯНЫ ЎЮЦЦА ВАКОЛ ЦЯБЕ, ЯК ПЧОЛЫ НАД МЁДАМ, А ЗАЎТРА ТРАПЛЯЮЦЬ У ЯКУЮ-НЕБУДЗЬ ГІСТОРЫЮ З САЙЕНТОЛАГАМІ.


ПРАБАЧЦЕ, МІСТАР СТАРК, ЦІ МОЖНА АДЦЯГНУЦЬ ТРОХІ ВАШАЙ УВАГІ ДЛЯ ПЕРАДАЧЫ «60 ХВІЛІН»? РАСКАЖЫЦЕ ПРА ТОЕ, ЯК СПАНСІРАВАЛІ АЛЬЦІМЭЙТС І ПРА НОВУЮ БРАНЮ ЖАЛЕЗНАГА ЧАЛАВЕКА?
ДАРАГАЯ, З ВАМІ Я ГАТОВЫ ПРАВЕСЦІ ЎВЕСЬ ВЕЧАР.


ДЖАРВІС, ПРЫНЯСІ ЯШЧЭ НАПОЯЎ ДЛЯ БЫЛОГА ХАЛКА.
КАНЕШНЕ, СЭР, У РЭШЦЕ РЭШТ, Я ЎСЯГО ТОЛЬКІ ВАШ АДДАНЫ ПРЫСЛУЖНІК, МОЙ ЧАС НЕ НАСТОЛЬКІ КАШТОЎНЫ, ЯК ЧАС АРЫСТАКРАТАЎ-СУПЕРГЕРОЯЎ.


ВЫШЭЙ НОС, МАЙСТАР БРУС. НЕ ТОЛЬКІ ВЫ АДЧУВАЕЦЕ СЯБЕ ЧУЖЫМ НА ГЭТАЙ ВЕЧАРЫНЕ.


КАСЦЮМ З КЕЎЛАРА, САМАЛЁТ КАПІТАНА АМЕРЫКА, ТАНК КАПІТАНА АМЕРЫКА... Я БЫЦЦАМ ЗНОЎ ЗНАЙШОЎ ЛЮБІМЫХ САЛДАЦІКАЎ, МІСТАР ПРЭЗІДЭНТ. ТЫСЯЧУ ГАДОЎ ТАК НЕ ВЕСЯЛІЎСЯ.
РАСКАЖЫ ПРА ШЧЫТ, ЯКІ МЫ ЗРАБІЛІ, ХЭНК. ЯКІ Ж КАПІТАН АМЕРЫКА БЕЗ ШЧЫТА?


ЁН АПРАЎДВАЕ ВАШЫ ЧАКАННІ, ГЕНЕРАЛ?
БОЛЬШ ЧЫМ.


ЁН РАЗУМНЫ?
ЁН ГЕНІЯЛЬНЫ ТАКТЫК. НІХТО ВА ЎСІМ СВЕЦЕ НЕ ПАДЫДЗЕ НА РОЛЮ ЛІДАРА КАМАНДЫ.


ДАБАВІМ ГЭТАГА ГРАМАБОЯ, ПЛЮС КУЧУ ІНШЫХ СУПЕРСАЛДАТАЎ, ЯКІХ БАНЭР СТВОРЫЦЬ З КРЫВІ КЭПА...І Я НЕ ЎЯЎЛЯЮ, КАБ ХОЦЬ ХТОСЬЦІ СКАЗАЎ НАМ СЛОВА ЎСУПЕРАК. А ВЫ ЯК ЛІЧЫЦЕ, СЭР?
Я, ГЕНЕРАЛ Ф'ЮРЫ, З ВАМІ ЗГОДНЫ.


НУ, ШТО СКАЖАЦЕ ПРА 21 СТАГОДДЗЕ, КАПІТАН? КРУТА, САПРАЎДЫ?


КРУТА, МІСТАР ПРЭЗІДЭНТ.
НАСАМРЭЧ, КРУТА.